# „Я“

«Я», як мы ўсе ведаем, — гэта адна з літараў. Але ўжо тое, што яна стаіць аж пад канцом альфабэту, мусіць мець нейкае важнае значэньне. Сапраўды, гэта ня толькі літара, гэта цэлае паняцьце, вялікае, важнае паняцьце. Ад яго, можна сказаць, пачынаецца й канчаецца сьвет. Ад яго, можна сказаць, пачалася людзкая культура, на ім грунтуецца й трымаецца нашае асабістае й грамадзка-палітычнае жыцьцё. Першая істота, якая сказала: «я — чалавек», была пачаткам нашае культуры. Калі мы запытаемся нейкага нашага знаёмага: хто вы? — Ён можа сказаць: Я — Іван, Сьцяпан, Кастусь... Або: Я — беларус, немец, маскаль, паляк, француз... Можа даць нам гэты адказ ясна, рашуча й цьвёрда, а можа пры гэтым пажаць плячыма, некалькі разоў скрывіцца, папрабаваць «хітра» ўсьміхнуцца, на ўсе бакі аглянуцца, зрабіць з сябе заіку — я-я-я... Можа пачаць выкручвацца ад нас, як ад васеньняй мухі, робячы ўражаньне, што ён надта хітры: — Ну, ведаеце, вашае пытаньне надзвычай дзіўнае, незразумелае, ды нашто яно, я гэтым ня цікаўлюся, мая хата з краю... Адным словам, сапраўдны філязоф.

Тымчасам сягоньня за гэтае вось «Я» ідзе сусьветная вайна. Бо гэтае «Я» — ня толькі — Міхась, Кастусь, Янка і г. д., але гэтае «Я» таксама азначае — беларус, маскаль немец, паляк, жыда-бальшавік, плютакрат і г. д. Вось якое гэта вялікае «Я».

Бязумоўна, гэтае «Я» азначае ў жыцьці таксама «я — злодзей, разбойнік, забойца, надпальшчык» і г. д. Але гэта нас тут ня цікавіць. Нас цікавіць тут тое, што за гэтае «Я — беларус» — тысячы сыноў нашага народу злажылі свае голавы, або сядзелі гадамі ў падвалах польскае дэфэнзывы, або жыда-бальшавіцкага НКВД. Гэта нашыя гэроі, нашыя правадыры. Яны ня толькі паказвалі нам наш шлях, але яны адначасна будавалі яго, палівалі сваёй крывёй і засявалі сваімі думкамі, асьвятлялі сонцам сваёй душы сваіх ідэалаў. Іх «Я» было яснае й цьвёрдае, як граніт. Дзеля гэтага іх сьвет, іх цьвёрдасьць і рашучасьць запанавалі й цягнулі за сабою тысячы іншых сэрцаў беларускае моладзі Тысячы іншых «Я» фармаваліся ў «Я — беларус». Нашыя ворагі нераз імкнуліся іх зьнішчыць, зьдзекаваліся над імі й мучылі іх. Праўда, ім не ўдалося поўнасьцю зьнішчыць у сэрцах тысячаў найлепшых нашых братоў гэтае нашае нацыянальнае сьветлое — Я.

Што такое для нас нашае нацыянальнае Я? Гэта нашая гарачая, палкая любоў да нашых родных гоняў, сенажацяў, рэкаў, лясоў, да нашых родных вёсак, мястэчкаў, гарадоў, да нашых магілак нашых гэрояў, да нашае мілае маці — Радзімы. Мы Яе дзеці. Хто-ж з дзяцей ня любіць сваю родную, сваю найпрыгажэйшую матулю?! Яна нас корміць, апранае, даглядае. Дык, браты! Хто знойдзецца яшчэ сярод нас, хто-б з лёгкім сэрцам мог глядзець на тое, як нашыя ворагі ізноў імкнуцца закаваць у ланцугі нашую мілую Радзіму?! Гэта, хіба, — праступнік свайго народу! І, сапраўды, кожны сягоньня праступнік перад нашай Радзімай, хто сягоньня яшчэ не сказаў цьвёрда й ясна: Я — беларус! Я аддам усе свае сілы й усе свае здольнасьці на тое, каб наша маці — Беларусь магла быць сапраўды свабоднай.

Мы жывем сягоньня ў часы татальнае вайны. Сягоньня вырашаецца раз назаўсёды будучыня жыцьця народаў, а гэтым самым і нашае Бацькаўшчыны. Сягоньня дзеля гэтага кожны народ татальна напружвае ўсе свае сілы для асягненьня сваіх мэтаў. Тым больш мы, беларусы, мусім напружаць усе свае сілы. Гэта мы можам асягнуць толькі тады, калі наша нацыянальнае «Я» станецца агульным зьявішчам. Бязумоўна, гэта для нас, беларусоў, дзякуючы шматлікім правакатарам і прахадзімцам сярод нас, не такая прастая рэч. Але гэта ёсьць рэч, якую мы мусім асягнуць за кожную цану. Гэта ёсьць заданьнем усіх нацыянальна сьведамых і цьвёрдых беларускіх змагароў.

Наша Бацькаўшчына, наша будучыня вымагае ад нас. У залежнасьці ад таго, як мы гэта выканаем, будзе судзіць нас наша гісторыя.

Мы пэўны, што мы гэта выканаем. Мы пэўны, што наша Радзіма, наша любоў да Яе ўдзесяцярыць нашыя сілы ў гэтай сьветлай працы! Мы пэўны, што ў хуткай будучыні мы амаль ня знойдзем сярод нас нікога, хто-б цьвёрда, ясна й рашуча не сказаў: Я — Беларус!

**Ул. Б.**

**ВАЙНА — працяг з 1-ай бач.**

шавікі страцілі на Ўсходнім фронце 2795 танкаў і 1442 самалёты.

У паўдзённай Італіі, каля ракі Вольтурно, нямецкія аддзелы адбілі ўсе атакі англя-амэрыканцаў. Пазыцыі тут прабягаюць уздоўж італьянскага заходняга ўзьбярэжжа й з узгор'ем Матэзо. Падчас, калі вораг каля рэчкі Вольтурно заўзята наступае, далей на захад ён пасоўваецца вельмі асьцярожна. Мясцовае ўкліненьне на паўночны захад ад Капуі было акружана нямецкімі аддзеламі. Уздоўж Адрыятыцкага ўзьбярэжжа вораг прабаваў па дарозе Тэрмолі-Істоніо перайсьці рэчку Трыгнэр. Аднак, усе гэтыя спробы былі крывава для ворага адбітыя.

Нямецкае лятунства цяжка збамбардавала востраў Лерос. Некалькі ваенных караблёў было затоплена. На Міжземным моры было затоплена: 2 фрахтары на 4.500 БРТ, 1 транспартны карабель на 1.500 БРТ, 6 караблёў на 28.500 БРТ і 1 зьнішчальнік. Акрамя таго было цяжка пашкоджана: 3 ваенныя караблі, 1 крэйсар і 2 зьнішчальнікі. За мінулы месяц было затоплена: 52 гандлёвыя караблі на 301.700 БРТ, а 13 гандлёвых караблёў на 100.000 БРТ так цяжка пашкоджаны, што трэба лічыцца з іх стратай. Акрамя таго 27 гандлёвых караблёў на 170.000 БРТ пашкоджаны. 3 ваенных караблёў былі затоплены: 1 крэйсар, 11 зьнішчальнікаў, 2 старажавыя караблі й 4 хуткабежныя лодкі, а 5 крэйсараў, 7 зьнішчальнікаў і шмат іншых караблёў так цяжка пашкоджаны, што можна лічыцца з іх стратай.

Нямецкае баявое лятунства некалькі разоў збамбардавала Нэаполь і Лёндан.

## Жыды дамагаюцца ўсяе Палестыны

Ангельскі высланьнік жыдоўскага сусьветнага кангрэсу склікаў спэцыяльную канфэрэнцыю ў Лёндане, на якой, ясна, жыды паабяцаюць саюзьнікам далёка йдучую дапамогу ў іх вайсковых высілках. Перадусім канфэрэнцыя лічыла неабходным выслаць тэлеграфічна спэцыяльнае прывітаньне маскоўскай канфэрэнцыі ў знак сваёй аднадумнасьці і саюзьніцтва. І бяз гэтага ўсім даўно вядома, што вайна, якую вядзе Лёндан, Вашынгтон і Масква, зьяўляецца вайной жыдоўства. Цікавейшымі зьяўляюцца таму дыскусіі, якія праводзяцца на канфэрэнцыі адносна ўзросту антысэмітызму ўва ўсіх частках сьвету. Гэта зьяўляецца аднэй з прычынаў, чаму жыды зараз звярочваюць асаблівую ўвагу на свае палестынскія пляны. Яны хочуць забясьпечыць сабе ў Палестыне апошняе схові шча. Таму яны робяць цяпер энэргічны націск на ўрады ў Вашынгтоне і Лёндане, каб яны аддалі жыдам усю Палестыну і гэтым зрабілі магчымым разьвіцьцё жыдоўскай палітыкі.

## Лёндан сьцьвярджае дадзеныя з паведамленьняў Нямецкага Найвышэйшага Камандаваньня

Лёнданскае агенцтва Рэйтэр падало да ведама 26-га кастрычніка г. г. лічбу ангельскіх стратаў у часе начных налётаў на Нямеччыну. Гэта лічба раўняецца, паводле паведамленьняў брытанскага лятунства, 306 бамбавіком у месяцы жніўні г. г. у той час, калі ў справаздачы нямецкага найвышэйшага камандаваньня падаваўся толькі лік 241 зьбітых уначы самалётаў. З гэтага відаць, што ангельцы страцілі на 65 самалётаў больш, чым падало нямецкае камандаваньне. Гэта тлумачыцца тым, што для сьцьвярджэньня дадзеных нямецкіх сілаў проціпятунскай абароны існуюць яшчэ спэцыяльныя аддзелы-камісіі, ганчакоў і проціпятунскай артылерыі, і сьцьвярджаюць страту толькі тых зьбітых самалётаў, ад якіх знаходзяць рэшткі. Шмат самалётаў, як паказвае і справаздача агэнцтва Рэйтар, гіне пры паўторным лёце праз мора або пры прызямленьні.

## Галодная рэвольта на Кіпры

Як паведамляюць з Нікозі, галоўнага гораду Кіпру, на востраве пачаліся галодныя бунты і забастоўкі ў вапошніх днях, дзеля таго, што цана на харчовыя прадукты паднялася страшэнна ў гору. Забастоўкі-пратэсты ахапілі працаўнікоў у важнейшых прадпрыемствах на востраве. Шмтлікія прадаўцы прымыкаюць да бастуючых. Як вынікае з сучасных жыцьцёвых абставінаў, цана на харчаваньне, вопратку й жыльлёвыя памешканьні, паднялася на 264, калі прымем у пачатку вайны 100. Заработная плата павышана толькі на 20 прац. Безадказнае кіраваньне ангельцамі, якое зусім не зважае на тое, каб унармаваць гэтыя цяжкія абставіны, у выніку прывяло да разрухаў. Ангельскія ўрады выступілі хутка супроць бастуючых, хочучы сілай іх перамагчы. Узмоцнены патрулі паліцыі й войска. Узьніклі паважныя сутычкі. Разрухі трываюць далей.

## Масква вывучае камісараў для заняцьця Эўропы

Паводле паведамленьня фінскай газэты «Узі Суофі», нядаўна заснаваны ў Горкім і ў Тыфлісе школы для камісараў, якія зьяўляюцца доказам імкненьня савецкай палітыкі апанаваць Эўропу. У гэтых школах вывучаюцца бальшавіцкія ўрадаўцы для эўрапэйскіх паваенных краёў, якія апынуцца пад бальшавіцкай уладай. У Горкім вучацца кандыдаты для эўрапэйскіх краёў, а ў Тыфлісе — на Блізкі Ўсход.

## Баўгарыя на варце

У мінулым тыдні адбылося ўрачыстае васеньняе паседжаньне баўгарскага сабраньня. Дзеля таго, што баўгарскі кароль яшчэ замалады, прамову меў прынц Кірыл, якая была падпісана рэгэнтамі й усімі міністрамі. У прамове гэтай ён зьвярнуўся да парляманту. «У замежнай палітыцы трэба ісьці ў напрамку захаваньня міру на Балканах, па ўгрунтаванай ужо палітычнай лініі. Мэтай яе зьяўляецца— стаць на варце баўгарскіх інтарэсаў і ўгрунтоўваць задзіночаньне баўгарскага народу, якое асягаецца з дапамогай вялікай Нямеччыны й ейных саюзьнікаў, а таксама вялікімі ахвярамі, якія панёс баўгарскі народ у змаганьні за нацыянальныя ідэалы. Урад будзе стаяць на старане ўнутранага супакою і праводзіць рашучыя мерапрыемствы супроць кожнае спробы, якая-б хацела гэты парадак нарушыць. Урад будзе яшчэ мацней праводзіць усе сацыяльныя мерапрыемствы, якія дагэтуль былі ўведзены. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на новыя абшары». Прамова канчаецца запэўненьнем, што ідэя памёршага караля будзе праводзіцца далей.

## З УСЯГО СЬВЕТУ

◆ Агэнцтва Рэйтар мусіць прызнаць, што ў гошпіталях Калькуты знаходзіцца зараз больш за 10 000 ахвяраў голаду. Выпадкаў сьмерці за час ад 16-га жніўня да 21-га кастрычніка занатавана 3 259.

◆ Як падае лёнданскае інфармацыйнае бюро, губэрнатар Бэнгалі, Сэр Джон Гэрбэрт, падаў у адстаўку па прычыне дрэннага стану здароўя.

◆ Партугальская газэта перасьцерагае перад небясьпекай амэрыканскага імпэрыялізму. Злучаныя Штаты хочуць, піша газэта, высунуцца на месца Эўропы. Высадку амэрыканцаў у Паўночнай Афрыцы газэта трактуе, як гэтага разьвіцьця.

◆ Быўшы афіцэр брытанскай арміі засуджаны лёнданскім крымінальным судом на пяць гадоў прымусовых работаў за кражу паўтара мільёна картак на адзежу. У яго валізцы знойдзена $4^{1}/_{2}$ мільёнаў адрэзкаў гэтых картаў.

◆ Сакратарыят лігі італьянскіх жанчын выдаў адозву да ўсіх італьянак, каб яны выкарысталі ўплыў на сваіх мужоў, каб тыя зьяўляліся дабравольна ў службу Бацькаўшчыны.

◆ У паўночнай частцы фінскага ўсходняга фронту пануе ўжо глыбокая зіма. Сьнежныя буры ўтрудняюць усялякую дзейнасьць.

◆ Італьянскі ўрад пастанавіў сканфіскаваць маемасьць быўшага караля Віктара Эмануіла за ягоную здраду.

◆ Як падаецца ўрадава да ведама, Манджуко прызнала тымчасовы індускі ўрад.

◆ Субгас Хандра Бозэ паехаў у Токіо, дзе ён вёў перагаворы аб супрацоўніцтве і ўзаемным падтрыманьні паміж Японіяй і новым вольным індускім урадам.

◆ Сіямскі ўрад падаў да ведама, што на месца Бангкоку сталіцай Сіяму будзе зьяўляцца Пэчабук.

◆ Швэдзкі міністар юстыцыі даў дазвол на выдаваньне камуністычнай газэты «Наррскэнфлямман» ад 1 студня 1944 г. у Люлеі. Адказны радактар Форсбэрг выпушчаў газэту да гэтага часу ў Штокгольме.

◆ У Маскве выпаў ужо першы сьнег.

◆ Дзяржаўны міністар фон Рыбэнтроп прызнаў тэлеграфічна тымчасовы ўрад «Вольнай Індыі» і пажадаў яму аднячасова шчасьлівай будучыні.

◆ Турцыя сьвяткавала 20-ыя ўгодкі свайго існаваньня. З гэтай нагоды турэцкі міністар-прэзыдэнт Рараноглю меў прамову, у якой адзначыў, што дваццаць год таму назад Турцыя зьнішчыла няволю, здабыла вольнасьць і незалежнасьць і сталася раўнапраўнай нацыяй сьвету.

**Выразкі з газэт**

## Янычарства

Як ведама з гісторыі, сваім часам тур... бяручы ў палон людзей, адбіралі ад іх дзяцей і ўзгадоўвалі ў дусе варожым для іхнага народу. Гэтыя турэцкія гадунцы рабіліся заўзятымі змагарамі за Турэччыну і біліся супроць таго народу, з якога паходзілі.

Яны называліся янычарамі.

Узгадаваньне моладзі ў дусе, варожым да свайго нацыянальнага, роднага, падобна да янычарскага, праводзілі ў адносінах да беларусоў і нашыя ворагі. Мы яшчэ памятаем, калі ў Заходняй Беларусі пад Польшчай з польскай школы дзеці выходзілі янычарамі ў вадносінах да свайго народу. Праўда, яны не называліся так, яны называлі сябе іншымі мянушкамі, як «праваслаўні поляцы», «бялорусіні-поляцы», «тутэйсі», а нават была тэндэнцыя ў некатарых палякоў называць такіх тыпаў «белапалякамі» ды іншымі адменьнікамі навачэснага янычарства.

Але найлепшымі майстрамі ў узгадаваньні навачэсных янычараў зьяўляюцца жыды з іхным марксызмам. Чалавек, які пераймаецца бальшавіцкай тэорыяй клясавага змаганьня, будзе з янычарскай заўзятасьцяй змагацца із сваімі нацыянальнымі братамі, якія, дзякуючы сваёй працы сумленнасьці, здолелі гаспадарска стаць самастойнымі.

Кожны бальшавік у вадносінах да свайго народу — гэта янычар жыдоўскае гадоўлі.

Мы, беларусы, мелі нагоду пабачыць і адчуць сваіх беларускіх янычараў. У Заходняй Беларусі, пад былой Польшчай, найбольшым ворагам беларушчыны быў якраз той, хто, паходзячы з сялянскай беларускай сям'і, пад уплывам польскага ўзгадаваньня, пачынаў чурацца ўсяго свайго роднага. Мала таго, ён ненавідзеў беларусоў, наагул не хацеў прызнаваць беларускага народу. Гэтым ён апраўдваў сябе, бо, прызнаючы беларускія імкненьні, ён мусіў-бы прызнаць сваю памылку, павінен-бы быў чуцца беларусом. Але яму не дазваляла ягоная янычарская душа. Ён, будучы рэнэгатам-адступнікам, пасьлядоўна адмаўляў усё беларускае ў іншых, як гэта ён зрабіў у вадносінах да самога сябе.

І вось, у Заходняй Беларусі найбольшымі нашымі нацыянальнымі ворагамі былі апалячаныя беларусы.

Але жыдом небясьпечна было, каб беларускі народ нацыянальна кансалідаваўся, таму іхная былая Менская цэнтраля пасылала юдавыя срэбнікі ў Заходнюю Беларусь, каб там разводзіць між беларусоў клясавае змаганьне — гэтае навачаснае янычарства.

Калі ў Заходняй Беларусі гэткае янычарства яшчэ было трохі прыдушанае няспрыяльнымі там дзяржаўнымі абставінамі, дык у гэтак званай Савецкай Беларусі яно мела поўны разгул. Там кожны, хто не паддаўся жыдоўскім уплывам, хто быў беларускім патрыётам, г. зн. любіў насампэрш сваю нацыю, свой народ, не засвойваючы жыдоўскага янычарскага ўзгадаваньня — прасьледваўся нават самай дзяржавай. Такі беларус называўся «нацдэмам» ці іншай якой бальшавіцкай мянюшкай.

Рэшткі янычарства мы яшчэ можам наглядаць дзе-ня-дзе і цяпер. Той з беларусоў, хто вышуквае яшчэ і цяпер у сваім народзе нейкіх кулакоў ці іншых «клясавых ворагаў» — ніхто іншы, як жыдоўскі янычар. Такі самы і той, хто пагарджае сваімі, хто ахвоча гаворыць чужой мовай там, дзе разумеюць ягоную беларускую і г. д.

Але найгоршыя тут бальшавіцка-жыдоўскія янычары, якія з падпольля перашкаджаюць адбудоўваць Беларусь і лятуцяць аб далейшай сваёй няволі ў жыдоўска-бальшавіцкім ярме.

Час беларусам пазбыцца ўплыву янычарства, ці то жыдоўскага, ці то польскага, ці то расейскага. Галоўнай нашай цяперашняй небясьпекай зьяўляецца янычарства бальшавіцка-жыдоўскае, бо яно, ахапіўшы цэлы азіяцка-расейскі ўсход, накаваўшы, дзякуючы нячуванай эксплёатацыі працоўных, вялізарную колькасьць зброі, пасоўваецца на Беларусь.

Перажываная намі вайна вызначыць долю нашага народу. Яна зробіць канцы розным відам янычарства ў беларускім народзе. Цяперашнія спрыяючыя абставіны для належнага нацыянальнага ўзгадаваньня, узгадаваньня ў любасьці да свае Бацькаўшчыны-Беларусі, выганяць із душаў беларускае моладзі ўсе варожыя чужацкія ўплывы. Беларускія нацыянальныя школы, — гэта гаранты належнага ўзгадаваньня новага пакаленьня Беларусі.

Нашая будучыня — гэта нашае вольнае беларускае жыцьцё ў сям'і вольных народаў Новай Эўропы. Вольнае жыцьцё беларусоў бяз уплываў якога-б там ні было янычарства.

**Ул. КАЗЛОЎСКІ**

(«Бел. Газ.»)

